# ДУМКІ і ПАГЛЯДЫ



Дадатак да «Беларускага Сьвету» № 22(51) – 1991 г. № 12



## Памяці Міхася Міцкевіча

25-га кастрычніка 1991 году адыйшоў у вечнасьць Міхась Міцкевіч. Бяз двух месяцаў пражыў ён 95 гадоў.

Паходзіў нябожчык зь Мікалаеўшчыны, што над Нёмнам каля Стаўпцоў. Ахвярна й верна служачы беларускай справе, прайшоў Міхась Міцкевіч нялёгкі жыцьцёвы шлях. Працаваў ён на розных нівах беларускага грамадзкага й палітычнага жыцьця, як на Бацькаўшчыне, так і на эміграцыі.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ, ТАБЕ, ДЗЯДЗЬКА МІХАСЬ!



## Я — грамадзянін Рэспублікі Беларусь!

Сёмая сэсія Беларускага парлямэнту прыняла закон «Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь», аб якім дэпутаты гаварылі яшчэ на Першай сэсіі. Аб асноўных яго палажэньнях гаворыць старшыня Камісіі па нацыянальнай палітыцы й міжнацыянальных адносінах Міхась Сьлямнёў.

**Міхась Аляксандравіч, хто згодна Закону будзе лічыцца грамадзянінам Беларусі?**

Усе жыхары Беларусі, незалежна ад нацыянальнай і расавай прыналежнасьці й веданьня беларускай мовы (аднак, ня трэба забывацца, што беларуская – дзяржаўная мова і вывучыць яе жыцьцё ўсёроўна прымусіць), якія пастаянна пражываюць на момант прыняцьця дакуманта на яе тэрыторыі.

**Што ўключае паняцьце «якія пастаянна пражываюць»?**

Само па сабе яно даволі складанае, і дэпутаты доўга ламалі коп'і з гэтай нагоды. Пакуль галоўны крытэрый – пастаянная прапіска. Аднак гэты прававы інстытут ужо адмірае, таму ў пастанове аб парадку ўвядзеньня Закону ў сілу мы даручылі Прэзыдыму Вярхоўнага Савету ў найкарацейшы тэрмін канкрэтызаваць пералік тых, хто пастаянна пражывае на Беларусі.

**Ці прадугледжана магчымасьць атрыманьня беларускага грамадзянства жыхарамі іншых краінаў ці іншаземцамі?**

Так, але дзеля гэтага ім неабходна даць абяцаньне паважаць і выконваць Канстытуцыю ды законы сувэрэннай Беларусі, ведаць дзяржаўную мову ў межах, неабходных для нармальных зносін, мець на тэрыторыі Беларусі законную крыніцу існаваньня й жыць тут ня менш 7 гадоў.

**Лёс раскідаў сотні тысяч суайчыньнікаў па цэлым сьвеце. Па розных прычынах, хто дабравольна, хто па прымусу ў розныя часы пакінулі Радзіму. Ці могуць эмігранты стаць грамадзянамі Беларусі?**

І яны, і іх нашчадкі атрымалі магчымасьць набыць беларускае грамадзянства бяз заліку 7-гадовага пражытачнага цэнзу.

Хацеў-бы адзначыць яшчэ адзін вельмі гуманны бок новага Закону. З прычыны ізноў такі гістарычных катаклізмаў паза дзяржаўнымі межамі Беларусі апынуліся вялікія масы беларусаў (я маю на ўвазе нашых суайчыньнікаў на Беласточчыне, Смаленшчыне, Віленшчыне й гэтак далей), якія ніколі не жылі пастаянна на тэрыторыі цяперашняе Беларусі, але лічаць сябе й па духу, і па крыві беларусамі. Цяпер яны могуць стаць грамадзянамі Беларусі на тых-жа ўмовах, што й эмігранты.

**Хто й калі можа быць пазбаўлены беларускага грамадзянства?**

Ніхто й ніколі.

**Якіх правоў будуць пазбаўлены асобы без грамадзянства?**

Гэты пералік будзе фармавацца па меры прыняцьця важнейшых законаў, якія разглядаюцца парлямэнтам. Але ўжо сёньня чалавек, які не мае беларускага грамадзянства, ня можа стаць Прэзыдэнтам Беларусі; для яго будуць устаноўлены пэўныя абмежаваньні пры прыватызацыі й атрыманьні ва ўласную маёмасьць зямлі.

**Важнейшы атрыбут грамадзяніна любой краіны — пашпарт. Ці атрымаем мы пашпарты грамадзян Беларусі?**

У пэрспектыве — абавязкова. Пакуль-жа пасьведчаньнем асобы грамадзяніна Беларусі часова будзе служыць цяперашні пашпарт.

**І апошняе пытаньне. Калі Закон «Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь» уступіць у сілу?**

Праз 10 дзён ад дня яго апублікаваньня. Парлямэнтарыі ўжо даручылі ўраду да 1-га сьнежня гэтага году (1991) прадставіць Вярхоўнаму Савету плян яго рэалізацыі.

Гутарыў Вацлаў Багдановіч

---

Усе дасланыя матэрыялы ў "Беларускі Сьвет" павінны быць лёгка чытэльнымі, і па магчымасьці адрэдагаванымі.

Грашовыя чэкі (ахвяры) на выдавецтва нашага часапісу могуць быць менш чытэльнымі, але **сума** па магчымасьці можа быць большай!

...Адказваючы на пытаньне, чаму іменна Менск вызначана месцам дыслякацыі каардынуючага воргану, Леанід Кравчук сказаў, што яшчэ год таму Беларусь запрапанавала расхрацаваць праект новага дагавору. Беларускі бок падрыхтаваў вельмі цікавы дакумант — дакумант чатырох: Украіны, Беларусі, Расеі й Казахстану. Але тады яму не далі дарогі, бо працэсы мяняліся вельмі хутка. Сёньня мы яшчэ раз перагледзелі той праект. Цяпер Менск, так сказаць, ізноў прадоўжыў эстафету. Ёсьць яшчэ адна прычына. Расея зьяўляецца вялікаю дзяржаваю, Украіна таксама не маленькая. Мы хацелі гэтым яшчэ раз падкрэсьліць, што ня будзе ні малодшых, ні старэйшых. Усе будзем рахавацца адзін з адным...

Паводле «Українські Вісті»

**Язэп Пілсудскі — Беларус?**

У Галоўным архіўным упраўленьні Беларусі знойдзены дакумант, які адкідае існуючую думку, што вядомы палітычны дзеяч Польшчы 20-30х гадоў Язэп Пілсудскі быў палякам.

Захаваўся пратакол допыту дзевятнаццацігадовага Пілсудскага па справе «першамартаўцаў», датаваны 10 сакавіка 1887 году. У гутарцы з падпалкоўнікам Страравым тады мала каму вядомы юнак сьцьвярджаў, што ён ад нараджэньня Восіп Восіпавіч, дваранін і па нацыянальнасьці беларус.

— Гэтая навіна сапраўды сэнсацыйная, — лічыць начальнік Галоўнага архіўнага ўпраўленьня пры Савеце Міністраў Беларусі Аляксандр Міхальчанка. — І хоць справа не ў нацыянальнасьці таго ці іншага палітычнага дзеяча, думаю, наша знаходка дапаможа дасьледчыкам пановаму паглядзець на дзейнасьць Пілсудскага й яго палітыку ў адносінах да Расеі. Сёньня ў энцыкляпэдыях можна прачытаць, што Язэп Пілсудскі быў настроены варожа да краіны Саветаў. Можа, прычына гэтай варожасьці ў нацыянальных каранёх?

Дарэчы, вядома, што большую частку беларускай і польскай інтэлігенцыі Язэпу Пілсудскаму ўдалося сьхіліць на свой бок менавіта дякуючы выдатнаму веданьню беларускай мовы. Гісторыкі таксама сьцьвяджаюць, што выступаць перад аўдыторыяй ён лічыў за лепшае на беларускай мове.

Паводле «Зьвязда»

* * *

З нагоды 70-гадовага юбілею «Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту» Алесь Барскі піша ў «Ніве»:

«...Урачыстасьць закончылася буйным банкетам, на які быў запрошаны і я. Узьнімалі доўгія шматслоўныя тосты дзесяткі ўдзельнікаў. Мяне да голасу не дапусьцілі, мабыць, пабаяліся, каб я ізноў не нагаварыў чагосьці нацыяналістычнага. І дарэмна, бо я хацеў

падняць тост за прыгожую жонку рэктара. І якраз у часе тостаў праявілася нешта такое, што сьведчыла аб дасканалым стане духу й самаўпэўненасьці русыфікатараў на Беларусі. Зь вельмі доўгім тостам выступіў запрошаны на ўрачыстасьць дырэктар заводу «Гарызонт». Як аказалася, дырэктар па нацыянальнасьці быў расейцам. І вось гэты чалавек ростам каля мэтра шасьцідзесяці, праходзячыся між сталоў уперад і назад, трымаючы руку ў кішэні, аблаяў як толькі ўмеў прыхільнікаў незалежнасьці Беларусі. Паіменна збэсьціў Ніла Гілевіча за яго дзеяньні ў Вярхоўным Савеце, утаптаў у гразь ідэю незалежнасьці Беларусі, даказваючы, што будзе яна толькі пазбаўленай сэнсу паперкай. Я слухаў гэтага расейскага напалеонца й драньцьвеў ад страху, думаючы, колькі такіх тыпаў ходзіць па расейскай зямлі. А самае страшнае ў тым, што апрача Ніла Гілевіча ніхто ня даў адпору гэтаму заядламу русыфікатару. Людзі навукі, цьвет беларускай інтэлігенцыі, дазволілі, каб русыфікатар напляваў ім у твар. Гледзячы на гэта, зразумеў я, як многа яшчэ трэба часу, каб вызваліць наш беларускі гонар з-пад чужацкай пяты. . .»

* * *

## БЕЛАРУСКАЕ ВОЙСКА ?

Узброеныя Сілы на тэрыторыі Беларусі (за выняткам стратагічных) цяпер пераходзяць пад юрысдыкцыю Рэспублікі. А прызыўнікі будуць прысягаць на вернасьць яе народу. Такое рашэньне прыняў, нарэшце, беларускі парлямэнт. Зусім лягічна, што заміж Міністэрства па справах абароны створана Міністэрства Абароны.

Вышэйшы гэнералітэт, натуральна, спрабуе зараз усімі сіламі захаваць адзіную Савецкую Армію і Мінабароны СССР (прытым, што Саюзу ўжо няма!). І нават знаходзіць падтрымку ў некаторых рэспубліках (напрыклад — Казахстане). Але варта нагадаць, што ў апошнія гады «непераможная й легендарная» Савецкая Армія ўсё больш ператваралася ў небясьпечны «хірургічны» інструмэнт у руках палітыкаў учарашняга дня.

### Як Прысягалі Беларусі

Жаўнеры-навабранцы, якія служаць пры Менскім сувораўскім ? вучылішчы, прысягнулі на вернасьць Беларусі й яе народу. Ва ўрачыстай абстаноўцы, са сьцягам і аркестрам, кожны расьпісаўся на бланку з «Пагоняй» і тэкстам воінскай прысягі. З вымаўленьнем яе таксама ніякіх праблемаў ня было. Па словах старшага прапаршчыка, камандзіра ўзводу М. Чэрніка — «як рэпу грызьлі».

Праўда, даводзілася чуць, што новы тэкст прысягі ні жаўнерам, ні афіцэрам не падабаецца: ён казённы й груваcткі. Магчыма, яно й так. Затое няма ў ім, як раней, ваяўнічай «победы над врагами» і пагрозьлівай «суровай кары». . .

Па зьвестках, у дывізіі імя Вярхоўнага Савету Беларусі (Уручча) прыняцьце прысягі навабранцамі прайшло менш сьвяточна. Быў разнабой у мове, а галоўнае — прыгнечаны настрой панаваў сярод афіцэраў. Не да сьвята, мабыць, перад маючым адбыцца скарачэньнем войска. Карацей кажучы, адны — як рэпу грызьлі, а ў другіх насы павісьлі...

Паводле «ЛіМ»

* * *

## СТАЛІ АХВЯРАМІ...

Больш за 40 мільёнаў чалавек загінулі па ўсёй краіне ў выніку голаду й масавых рэпрэсіяў (1920-1953 гг.). Паводле няпоўных даных, якія грунтуюцца на архіўных дакумантах, толькі з 1934 па 1947 год праз папраўча-працоўныя лягеры ГУЛАГа й НКВД прайшлі каля 25,3 мільёна зьняволеных. Аднак вычарпальнай інфармацыі аб колькасьці ахвяраў у пэрыяд масавых рэпрэсіяў да гэтай пары не апублікавана. А. Салжаніцын даказвае, што ахвярамі дзяржаўных рэпрэсіяў пры Леніне, Сталіне й Хрушчове сталі 66 мільёнаў 700 тысяч чалавек.

Самае масавае выяўленае Пахаваньне, у якім спачываюць астанкі незьлічоных тысяч ахвяраў рэпрэсіяў, расстраляных спэцкамандамі НКВД да 1941 году знаходзіцца ва ўрочышчы Курапаты пад Менскам на Беларусі...

Васіль Хомчанка піша ў «Маладосьці» між іншага:

«...Наркомам унутраных спраў Беларусі, калі я знаходзіўся пад арыштам і сьледзтвам, быў знакаміты Бэрман Барыс Давыдавіч. Ён і яго брат Бэрман Мацьвей, начальнік ГУЛАГа, намесьнік наркома ўнутраных спраў СССР, пакінулі ў гісторыі нашай дзяржавы страшны сьлед.

Не магу не прывесьці паказаньні Наседкіна — наркома ўнутраных спраў Беларусі, які замяніў Бэрмана, арыштаванага й расстралянага.

Наседкін назваў Бэрмана самым лютым наркомам. «За які год яго работы, — сьведчыў Наседкін, — Бэрман расстраляў звыш 80 тысяч чалавек. Ён забіў усіх лепшых камуністаў рэспублікі, абезгаловіў савецкі й партыйны апарат, зьнішчыў цьвет інтэлігенцыі, вышукваў, знаходзіў і зьнішчаў усіх мала-мальскі разумных і адданых народу людзей. Восемдзесят тысяч бязьвінных ахвяраў, гара трупаў!..»

Далей Наседкін (таксама ведамы кат беларускага народу — заўвага наборшчыка) расказваў пра мэтады кіраўніцтва Бэрмана падначаленымі.

«Па суботах Бэрман праводзіў вытворчыя нарады. Выклікаліся на сцэну па зараней падрыхтаваным сьпісе трое лепшых сьледчых і трое горшых. Бэрман пачынаў:

— Вось лепшыя зь лепшых нашых работнікаў, — называў ён прозь-

вішча сьледчага. — Устаньце, таварыш. Няхай астатнія вас бачаць. За тыдзень ён скончыў сто спраў, зь іх сорак — на вышэйшую меру, а шэсьцьдзесят на агульны тэрмін у тысячу гадоў. Павіншуем таварыша. Сталін пра вас ведае й помніць. Вас прадстаўляем да ўзнагароды ордэнам. А зараз атрымаеце грашовую прэмію ў суме пяці тысяч рублёў. А вось сьледчы, — называлася прозьвішча, — за тыдзень скончыў усяго толькі тры справы, і ніводнага на расстрэл, а прапаноўвае падсьледным тэрміны ад пяці да васьмі гадоў. Выведзіце яго.

Бледнага ад страху сьледчага выводзілі.

— Выявілася, — голасна чаканіў Бэрман, — што гэты сьледчы завербаваны нашымі ворагамі, якія паставілі задачу органам сарваць выкананьне асабістых заданьняў таварыша Сталіна. Гэты здраднік сьледчы будзе расстраляны».

Так тэрарызаваў сваіх падначаленых Бэрман, і падначаленыя стараліся...»

* * *

**Амэрыканскім амбасадарам на Беларусь назначаны Давід Г. Шварц, 51 год. Ён служыў ужо у бышым Савецкім Саюзе ды ў іншых краінах Усходняе Эўропы. Ведае мовы расейскую ды украінскую. Беларускую, відаць, прыйдзцца вывучаць ужо ў Менску.**

* * *

Маленькі ўрывак з размовы з Земавітам Фэдэцкім у Кракаве:

...«Ня ведаю, кім быў дзед Уладзіслава Ягайлы, але ведаю, што кароль размаўляў па-беларуску, гэта была прыдворная мова Ягелёнаў (Ягайлавічаў). Жыгімонт Аўгуст выдаваў дакуманты на той мове. Статут Вялікага княства Літоўскага таксама быў напісаны па-беларуску. А паслухайце, калі ласка, якой моваю пісаў Жыгімонт III пасьля каранацыі ў Кракаве ў 1588 годзе: «Забегаючы мы господар продолжэнью справедлівасьці людзкое уставуем...»

Літва — гэта беларускае слова. Была такая старая летувіская (жмудзінская) замова: «Пэркуне дэвайтэ, ня мушк жэмайтэ, мушк гуда, кайп шуні руда» («Божа Пяркунас, не бі жмудзіна, бі беларуса, як рудога пса»). Бо продак сучаснага летувіса называў сябе жмудзінам, жэмайцісам.

Перавага беларускай над іншымі мовамі была такая моцная, што ў мячэцях знаходзілі старажытныя асобнікі Карана, пісаныя арабскім алфавітам па-беларуску!..»

* * *

**Мы ні зь кім ня будзем дзяліць вайсковую ўладу на сваёй тэрыторыі,** — заявіў генэрал-лейтэнант Пётр ЧАВУС. Гутарыў зь генэралам Валеры Сядоў:

**Якія мэты й вынікі візіту маршала Шапашнікава ў Рэспубліку Беларусь?**

30 сьнежня на сустрэчы дзяржаваў СНД было вырашана, што маршал Шапашнікаў як галоўнакамандуючы ўзброенымі сіламі абавязаны на працягу 2 месяцаў заключыць 2-баковыя пагадненьні з усімі незалежнымі рэспублікамі. Ён выказаў пажаданьне пачаць гэты працэс зь Беларусі. 2 студзеня 1992 г. ён прыбыў да нас не з канкрэтнымі прапановамі, а з мэтаю вывучэньня сітуацыі. У часе сустрэчы з С. Шушкевічам, мною й камандаваньнем Беларускай вайсковай акругі мы паразумеліся ў канцэпцыі стратэгічных ядзерных сілаў. «Кнопка» пераходзіць у рукі Б. Ельцына, які можа выкарыстаць яе толькі па ўзгадненьні зь кіраўнікамі тых дзяржаваў, на тэрыторыі якіх гэтая зброя знаходзіцца. Разыходжаньняў у вырашэньні гэтае праблемы ў нас няма. Праўда, мы пакуль абдумваем, якія сілы й сродкі ўвойдуць у склад стратэгічных ядзерных сілаў. Маршал Шапашнікаў выказаў жаданьне мець найбольш такіх сродкаў і сілаў. Мы-ж лічым, што ў іх павінныя быць уключаныя толькі патрэбныя й дастатковыя. І ня больш.

**А які лёс тактычнае ядзернае зброі?**

Прынятае рашэньне цалкам вывесьці яе на тэрыторыю Расеі, дзе будуць вызначаныя спэцыяльныя мейсцы для яе зьнішчэньня на спэцыяльным закупленым за мяжою абсталяваньні. Нам дастаткова Чарнобыля, таму займацца гэтым мы ня будзем.

**Як вырашалася пытаньне звычайных узбраеньняў?**

У маршала Шапашнікава было жаданьне працягнуць цяперашняе становішча, каб Міністэрства па справах абароны Беларусі займалася сваімі прыватнымі пытаньнямі, а Беларуская вайсковая акруга, застаючыся ў падпарадкаваньні Масквы, вырашала свае пытаньні самастойна. Яму было афіцыйна заяўлена, што Беларусь як незалежная дзяржава мае права стварацць уласныя ўзброеныя сілы, і мы маем намер гэтым займацца. Мы ня будзем дзяліць вайсковую ўладу на тэрыторыі свае Рэспублікі ні зь кім. Пакуль гэтая праблема застаецца адкрытай, але, мяркую, яна вырашыцца на бліжэйшай сэсіі ВС у інтарэсах нашага народу й дзяржавы.

**Што Вы параіце тым вайскоўцам-беларусам, якія захочуць працягваць службу ў сваім беларускім войску? Маюцца на ўвазе тыя, хто служыць сёньня, напрыклад, на Далёкім Усходзе або Сахаліне.**

Намі аддадзена ўказаньне кіраўніцтву акругі, каб прызыўнікі, афіцэры й генэралы, якія былі прызваныя з тэрыторыі Беларусі, маглі ў любы час да нас вярнуцца. Яны павінны ведаць, што тут іх Бацькаўшчына. Найперш мы павінны забраць нашых людзей з «гарачых кропак», дзе жыцьцё нашых людзей знаходзіцца ў небясьпецы. Усе, хто хоча вярнуцца, павінны стаць на ўлік пакуль ва ўпраўленьні кадраў БВА, а ў хуткім часе ў нашым Міністэрстве. Па меры вызваленьня пасадаў мы задаволім просьбы ўсіх ахвотных.

**Якім чынам будзе камплектавацца штат узначаленага Вамі Міністэрства?**

Першапачаткава я меркаваў стварыць Міністэрства над усімі вайсковымі структурамі, якія існуюць на нашай тэрыторыі, але, ацаніўшы сітуацыю, вырашыў, што гэта немэтазгодна й нявыгадна. Таму вырашана фармаваць наша Міністэрства на аснове ўпраўленьня БВА.

* * *

## Дык хто-ж і як зьнішчыў Хатынь?

Часапіс «Крыніца» зьмясьціў інтэрв'ю з падпалкоўнікам «юстыцыі» Віктарам Глазковым, у якім ён між іншага гаворыць:

«...У ходзе многадзённага суду па справе бышага начштаба 118 батальёна Васюры ў мяне паўстаў поўны й аб'ектыўны вобраз трагэдыі гэтае вёскі.

Вось як гэта адбылося. Адной з важнейшых прычынаў, што прывяло да зьнішчэньня Хатыні, было забойства партызанамі на шашы Лагойск-Плешчаніцы раніцай 22 сакавіка 1943 году капітана Ганса Вельке. Ён быў шэфам роты таго самага паліцыйнага батальёну, іншымі словамі дубляваў ротнага. Вількe ад'язджаў на водпуск. Гэта быў не звычайны афіцэр. У 1936 годзе ён стаў чэмпіёнам Алімпійскіх спаборніцтваў ў Бэрліне, атрымаў з рук Гітлера залаты мэдаль...

Любімца Гітлера забіла група партызанаў, якія нядаўна былі ў Хатыні. Хачу падкрэсьліць, што вылазку на шашу партызаны зьдзейсьнілі без згоды свайго камандаваньня.

118-ы батальён падняли па трывозе й ён хутка прыбыў на месца забойства Вількe. Сьляды па сьнезе вялі ў Хатынь. Па дарозе батальёнцы расстралялі 27 сялянаў з вёскі Козыры, якія працавалі пры лесанарыхтоўцы.

Хатынь цесна акружылі. Толькі два падросткі змаглі ўратавацца. Яшчэ адзін хлопчык выжыў: яго прыкрыла цела забітае маці. Усіх жыхароў загналі ў вялікае гумно й падпалілі. Тыя хто ўцякаў з агню, траплялі пад кулямётныя пулі. Галоўным рэжысэрам і распарадчыкам быў начальнік штаба 118-га бальёну...

Працэс над начальнікам штабу 118-га батальёну адбыўся 4 гады таму. Чаму праўда аб Хатыні затойвалася ў архівах суду? Аб гэтым трэба запытаць бышага загадчыка ідэялягічнага аддзелу ЦК Кампартыі Беларусі Паўлава... Як стала вядома, асабліва супрацівіўся распаўсюджаньню праўды пра Хатынь член Палітбюра ЦК КПСС Шчарбіцкі. Ён дакладна ведаў, што 118-ы паліцыйны батальён быў сфармаваны ў Кіяве, і што начальнікам штабу быў украінец...»

Дык хто-ж зьнішчыў Хатынь? Кожны вучань на Беларусі вам скажа, што Хатынь разам зь яе жыхарамі спалілі нямецкія карнікі... Аказваецца, што гэта хлусьня, бо нашыя суседзі з-за балота без ніякай патрэбы ўмяшаліся ў гэтую трагічна-балючую справу...